*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 18(126) ◈ 5 траўня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*НАПЯРЭДАДНІ РАДАЎНІЦЫ Хрысціянская злучнасць «Курапаты», Мартыралог Беларусі, Асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій, Беларускі фонд культуры, БНФ правялі «Талаку на Курапатах» і прывялі да ладу магілы ахвяр сталінскіх рэпрэсій.*

НА ЧАРГОВЫМ ПАСЯДЖЭННІ СОЙМА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТА РАЗГЛЕДЖАНЫ ПЫТАННІ, звязаныя з падрыхтоўкай да трэцяга з'езда, які пройдзе 29 і 30 траўня.

*РЭСПУБЛІКУ ПОЛЬШЧУ З ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ КАМАНДУЮЧЫ ПАГРАНІЧНЫМІ ВОЙСКАМІ БЕЛАРУСІ ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЭНАНТ Я. БАЧАРОЎ. У час перамоў з галоўным камендантам пагранічнай варты Польшчы Янам Вайцяшчуком абмяркоўваліся пытанні расшырэння двухбаковага супрацоўніцтва. Камандуючага пагранічнымі войскамі РБ прыняў міністр унутраных спраў Польшчы Анжэй Мілчаноўскі. Былі абмеркаваны пытанні супрацоўніцтва ў барацьбе са злачыннасцю. На травень запланаваны візіт галоўнага каменданта пагранічнай варты Польшчы ў Беларусь.*

ДА КАНЦА ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ ЗАСТАЛОСЯ ЎСЯГО ДВА ТЫДНІ. І чым на кіёскі спадзявацца, лепш на «Наша слова» падпісацца! Спяшайцеся!

*Яўген ЦУМАРАЎ, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь*

## ПРА ДВА «ЯЗЫКІ», ЯКІЯ ЧАС АД ЧАСУ ПАКАЗВАЕ «ЗМЯЯ», АБО ГУЛЬНЯ Ў МЫЛЬНЫЯ БУРБАЛКІ ЯК СРОДАК САМАВЫРАЖЭННЯ

**ЧАСАМ нікчэмным здарэнням і з'явам неапраўданымі намаганнямі сродкаў масавай інфармацыі надаецца неўласцівая ім грамадская значнасць. Так, газета «Правда» 1 снежня мінулага года надрукавала ліст, адрасаваны прэзідэнту Расіі Барысу Ельцыну, які, сцвярджалася, быў падпісаны сямюстамі выкладчыкамі і студэнтамі Віцебскага педагагічнага інстытута. Як чытач упэўніцца ніжэй, гэта не зусім так. Больш таго, ліст, як паведамляе рэктар інстытута В. Вінаградаў, у калектывах «нідзе не абмяркоўваўся», і ў навучальнай установе «даведаліся пра яго з некаторых газет». Хаця некаторыя выкладчыкі і студэнты сапраўды яго падпісалі, але «ў большасці выпадкаў на лісце стаяць нерасшыфраваныя «кручкі», а сапраўдныя яго аўтары засталіся невядомымі, як, напрыклад, «нехта А. Фёдараў», які не працуе ў інстытуце.**

**У наш час нікога не здзівіш фактамі збору подпісаў пад тэкстамі, падрыхтаванымі загадзя спрытнымі аматарамі выказвання «волі народа» па тых ці іншых грамадска значных пытаннях. Калі такія подпісы не ідэнтыфікуюцца (што дае шырокую магчымасць для іх падробкі), дакумента, як кажуць, няма. Есць «мыльныя бурбалкі», а таксама недзіцячая «забава», якая мае на мэце ўвесці ў зман грамадскасць і дасягнуць тых ці іншых карыслівых мэт несумленным шляхам. Ды, зрэшты, не сакрэт, што хлусня («гульня ў мыльныя бурбалкі») з'яўляецца не толькі сродкам самавыражэння, але і «мірным» сродкам вядзення вайны варожымі застрэльшчыкамі глабальнага абалваньвання мас.**

**Чаго варты такія «перлы», узятыя з надрукаванага ў «Правде» ліста: «Россия же всегда была великим, единым и неделимым государством» або «мы, белорусы, исконно имперский народ, лишились Родины — Великой России»? «Сачыненнем» з напісанага ліста выглядаюць і разважанні пра «продажу интересов России» (кім? грамадзянамі незалежнай рэспублікі?!), а таксама пра «издевательство над русским языком» з боку прыхільнікаў нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі. Аднак што наракаць на крывое, сапраўды «праўдзінскае» люстэрка адлюстравання грамадскага жыцця на акраінах былой «вялікай і непадзельнай» дзяржавы, калі зусім відавочна, што не ў люстэрку справа, «коль рожа крива».**

*(Заканчэнне на с. 3).*

*У Беларусь прыехала дэлегацыя місіянераў з Даніі, якія супрацоўнічаюць з Беларускім дзіцячым фондам ужо каля трох гадоў. Дэлегацыя прымае ўдзел у дабрачынных чарнобыльскіх мерапрыемствах Беларускага дзіцячага фонду.*

*У Лідскім гарадскім ЗАГСе зарэгістраваны 100-тысячны жыхар горада — Дзяніс Казак.*

## Расія прагаласавала супраць вяртання ў кампартыйны «рай»

*Вынікі расійскага рэферэндуму, хоць падзея і адбылася ў суседняй дзяржаве, знайшлі актыўны водгук у Беларусі. Масава станоўча ўспрыняты факт, што большасць расіян падтрымала курс прэзідэнта на рэформы. Як і тое, што выбаршчыкі ў Расіі, нягледзячы на заблытанасць пытання аб датэрміновых выбарах дэпутатаў, далі ясны і недвухсэнсоўны адказ — перавыбары неабходныя.*

*У свеце таксама высока ацэньваюць грамадзянскую свядомасць расіян. Маскоўскі карэспандэнт тэлекампаніі Эй-бі-сі, адзначаючы, што нават спрэчная эканамічная палітыка Ельцына атрымала адабрэнне, не хавае таго, што ён асабіста гэтым быў нават «ашаломлены», і мяркуе, што і іншыя замежныя назіральнікі «адчулі аналагічнае пачуццё». Амерыканскі каментатар тлумачыць такія вынікі народнага волевыяўлення тым, што эканамічныя рэформы «цесна ўвязваюцца ў грамадскай свядомасці з адмаўленнем ад ранейшай камуністычнай мадэлі. Непрыняцце людзьмі вяртання да старога, — заўважае журналіст, — аказваецца мацнейшым за пакуты, выкліканыя пераходам да новай сістэмы».*

Л. М.

*У Менску адбылася чарговая сустрэча кіраўнікоў урадаў краін СНД. Было разгледжана пятнаццаць пунктаў важных міждзяржаўных спраў.*

*У Маскве пракамуністычныя і камуністычныя партыі і рухі правялі крывавую маёўку на вуліцах горада.*

*Надзённае інтэрв'ю*

## «Усе ў Ізраілі вучаць іўрыт»

*(Гутарка з дырэктарам Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра сп. Рыгорам Фрэнкелем)*

**— Спадар Фрэнкель, пра Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтр у Беларусі неаднойчы згадвалася ў газетах, пра яго ходзяць чуткі самага рознага характару. Дарэчы, я заўважыла, да Вас многа наведваецца суайчыннікаў. Хацелася б даведацца з кампетэнтных крыніц, як гаворыцца, што ўяўляе сабой Ваша паважаная ўстанова і якія ў яе функцыі?**

— Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтр у Менску існуе ўсяго толькі адзін год. Ён быў створаны ў сакавіку мінулага года. Асноўная функцыя Цэнтра — даваць патрэбную інфармацыю пра ізраільскую культуру, а таксама пра жыццё ў Ізраілі ўсім, хто да нас заходзіць і гэтым цікавіцца. Цэнтр наведваюць таксама нашы суайчыннікі з Ізраіля. Нядаўна ў нас гасцііў былы кіраўнік урада гэтай краіны спадар Шамір.

**— Ці шмат нашых былых суайчыннікаў, якія трапілі ў Ізраіль, звяртаюцца да Вас цяпер з нейкімі прапановамі альбо просьбамі? Ці цікавяцца яны сваёй былой Радзімай?**

— Такія выпадкі ёсць, але іх няшмат. Бываюць розныя сітуацыі. Я павінен сказаць, што асноўная маса яўрэяў, якія выехалі ў Ізраіль, пачуваюць сябе там добра, хоць ім і нялёгка ўжывацца ў новых умовах.

**— Не сакрэт, што беларусам цяпер даводзіцца нібы нанава вывучаць сваю нацыянальную мову. Па некаторых звестках, такая ж праблема ўзнікла і ў Ізраілі з вывучэннем іўрыта, бо, як вядома, іўрыт быў мовай нацыянальнай меншасці. Чаму Ізраіль пачаў вучыць мову найменш адукаванай часткі насельніцтва? На ёй жа, наколькі вядома, не распрацавана як след і навуковая тэрміналогія. Яўрэі заўсёды імкнуліся вучыць больш прэстыжныя мовы. У нас — рускую і яшчэ — англійскую, французскую, нямецкую. Дарэчы, у Беларусі яны ведалі, зноў жа, ідыш, а не іўрыт. А вось цяпер ці не настойваюць яны, апынуўшыся ў Ізраілі, на тым, каб разам з іўрытам дзяржаўнай мовай стала таксама мова руская ці англійская, ці той жа ідыш?**

— Сапраўды, нейкая паралель паміж адраджэннем беларускай мовы на Беларусі і

*(Заканчэнне на с. 3).*

# Спадзяёмся на дапамогу

## ЗВАРОТ

*ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю да грамадзян Беларусі і беларусаў Літвы*

Грамадзяне! Дарагія суайчыннікі! Настаўнікі, вучні, бацькі! Сябры ТБМ!

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага краю выступае за адраджэнне, захаванне і развіццё беларушчыны **на Віленшчыне.**

Вільня ёсць калыска беларускай культуры. Кальварыя, Вострая Брама... Францішак **Скарына, Францішак Багушэвіч, Кастусь Каліноўскі, Янка Купала...** — гэта ўсё нам дорага.

**Наша нацыянальнае Адраджэнне на ўздыме. Мы павінны аднавіць у Вільні Беларускі нацыянальна-культурны цэнтр** (музей, гімназія, бібліятэка, друк, касцёл і г.д.).

**Звяртаемся да вас, дарагія суайчыннікі, за маральнай і матэрыяльнай падтрымкай у** справе нашага агульнага нацыянальнага Адраджэння на Віленшчыне.

Нам патрэбны мастацкая і навуковая літаратура, падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, **метадычная літаратура і г. д., а таксама фінансавыя сродкі.**

Спадзяёмся на дапамогу ў гэтай справе з боку дзяржаўных улад Беларусі, яе грамадзян, грамадскіх і камерцыйных арганізацый і структур. Наш адрас: г. Вільня, вул. Архітэкту, 23—79, ТБМ, тэл. 41-99-92.

За наша агульнае **нацыянальнае** Адраджэнне!

Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага краю.

# *Беларускія выданні — кожнай сям'і*

Нядаўнім часам неяк адзначалася, што «Наша слова» — асветніцкае выданне, якое мае сваёю мэтаю спрыяць вывучэнню беларускай мовы. Сваю справу «НС» робіць добра. Чытаючы «НС», чалавек авалодвае не толькі мовай, ён вучыцца быць свядомым патрыётам. А гэта галоўны шлях да адраджэння беларускай нацыі і яе культуры. «НС» робіць чалавека перакананым прыхільнікам беларушчыны.

Толькі адно засмучае. Якая частка беларусаў чытае «НС»? Адзін яе нумар амаль на адну тысячу беларусаў! Ці можа адзін падпісчык данесці яго змест да астатніх сваіх суайчыннікаў? Відаць — не. І сёння можна зрабіць адназначную выснову: эфект асветніцкай і выхаваўчай дзейнасці «Нашага слова» з-за яго невялікай тыражнасці невысокі. Не хапае «крытычнай масы», пасля дасягнення якой узрастае не толькі ўздзеянне на грамадства, але і аднačасова нават інертнае пашырэнне чытацкага кола газеты.

У чым жа справа? Галоўнае тлумачэнне навідавоку: людзі адцураліся роднае мовы. Што ж, іх доўга адвучвалі! Так, некаторыя адвярнуліся, іншыя не паспелі да яе павярнуцца. Таму не вельмі лёгка сёння такім людзям і «Наша слова» прызнаць сваім. А многім газета проста не трапляе на вочы. Але можна быць упэўненым, што беларус, які возьме ў рукі «Наша слова» сёння, не адвернецца ад яго і заўтра. Трэба толькі... дапамагчы яму ўзяць газету ў рукі.

Хто ж гэта можа зрабіць? Безумоўна, кожны, хто пажадае. Але вось ТБМ, здаецца, толькі і складаецца з такіх людзей, якія гэтага жадаюць. Дык каму ж гэта рабіць, як, у першую чаргу, не сябрам роднай мовы!

Словам, Таварыству беларускай мовы мала выпускаць асветніцкую газету, трэба яе яшчэ і распаўсюджваць, прапагандаваць. Дарэчы, і ў «Статуце ТБМ» (раздзел III «Сябры») прама сказана: «Сябры Таварыства абавязаны: ...прапагандаваць беларускія выданні...»

Не хацелася б нікога «абавязваць». Скажу проста: сябры, сёння мы не зрабілі таго, што патрэбна беларускаму народу. Заўтра можам спазніцца. Ніхто за нас не зробіць нашу справу, калі хочам людзьмі звацца.

1993 год павінен стаць годам шырокага распаўсюджвання газеты «Наша слова», як і іншых беларускамоўных выданняў!

**Кастусь ЛУСТАЧ.**
**п. Умба**
**Мурманскай вобл.**

# Мова, культура, эканоміка — аднолькава важныя

Апошнім часам у рэспубліканскім рускамоўным друку няспынна чуваць «залпы» па «нацыяналістах», больш дакладна, па тых, хто выступае за адзіную дзяржаўную мову — беларускую.

Чаму якраз цяпер заварушыліся «звышінтэрнацыяналісты», загаласіўшы на ўсе лады, што, маўляў, рускую мову дыскрэдытуюць, закрываюць рускія школы, прымушаюць дзетак сілком вывучаць «мужыцкую мову»? Яны нават спасылаюцца на Дэкларацыю правоў чалавека, хаця там, дарэчы, нічога не гаворыцца аб тым, што бацькі маюць права выбіраць мову навучання для сваіх малалетак. «Звышінтэрнацыяналісты» падбухторваюць недасведчаных бацькоў нават на акцыі, якія не толькі супярэчаць маралі, але і знаходзяцца ў процістаянні з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Адказ на ўсё гэта адназначны: наблізіўся тэрмін практычнага ажыццяўлення Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы, а канкрэтна — увядзенне яе ў якасці службовай, рабочай ва ўстановах, арганізацыях... Тыя, хто не падрыхтаваўся да гэтага, схамянуліся. З боязі страціць утульную пасаду яны хочуць адцягнуць тэрмін да свайго «выхаду на заслужаны адпачынак».

На жаль, апошнім часам і ў нашым Ляхавіцкім раёне актывізаваліся «змагары» за дзяржаўнасць рускай мовы. Вось, напрыклад, нядаўна, у канцы студзеня ў раённай газеце «Ляхавіцкі веснік» з'явілася публікацыя пад загалоўкам: «Ёсць больш важныя праблемы» за подпісам: «М. Шэлех, жыхарка вёскі Зарытава». Калі чытаеш матэрыял, то звяртаеш увагу на наступныя радкі: «Ад таго, што беларусы загавораць па-беларуску, карткі, якія рэзка абмежавалі людзей у прадуктах харчавання, не адменяцца, не знікнуць». Ад такіх разважанняў так і патыхае «кілбаснай псіхалогіяй»! Так і хочацца спытаць у аўтаркі публікацыі: ці адменяцца карткі, калі беларусы не будуць гаварыць па-беларуску? Скажам шчыра: такія «доказы» разлічаны на людзей наіўных.

Нельга пакінуць без увагі і наступныя «аргументы» публікацыі: «У друку паведамлялася, што толькі на беларускае справаводства патрабуюцца дзесяткі мільёнаў рублёў. Іх трэба шукаць. Але ж такія сумы не валяюцца на дарозе». Ніхто не аспрэчвае, што для ажыццяўлення Закона аб мовах спатрэбяцца значныя сумы грошай. Але колькі нашы дзяржаўныя чыноўнікі не па-гаспадарску распараджаліся дзяржаўнай скарбонкай, колькі сродкаў і дагэтуль марнатравіцца?

Можна паспрачацца з аўтаркай допісу і наконт таго, што «мільёны не валяюцца на дарозе». Мяркуйце самі, летась «бацькі мястэчка Ляхавічы», каб давесці да глянцу галоўныя вуліцы ў райцэнтры, паклалі на вельмі добрае яшчэ пакрыццё дзесяткі, а то і сотні тон свежага асфальту, чым, дарэчы, толькі здзівілі жыхароў. А калі б тыя грошы, што выкінулі на непатрэбны асфальт, адпусцілі на пераафармленне шыльдаў у райцэнтры на беларускую мову і такім чынам надалі б райцэнтру нацыянальны каларыт, то гэта б ніяк не спустошыла гарадскі бюджэт.

Лічу, што нельга аддзяляць моўную праблему ў Беларусі ад іншых праблем — эканамічнай, палітычнай, прававой, культурнай — усе яны павінны вырашацца комплексна, лічыцца аднолькава важнымі.

**В. СОКАЛ.**
Вёска Зубелевічы
Ляхавіцкага раёна.

*Але!*

# Кампартыйная вывучка жыве... у «Царкоўным слове»

*«Адхілі ад сябе хлуслівасць вуснаў і хітрасць языка аддалі ад сябе».*

(«Біблія», «Прытчы Саламонавы», 4, 24)

Прачытаў артыкул, надрукаваны ў «Царкоўным слове» (1993, № 2) пад загалоўкам «Шляхам хлусні і вар'яцтва» за подпісам Б. Пякучы, доўга не мог супакоіцца, нарэшце зрабіў вывад: падобнае мог напісаць толькі чалавек не інакш як у стане прыступу Карсакоўскага сіндрому. І такое надрукавала выданне Беларускай праваслаўнай царквы! Царквы, якая павінна прапаведаваць толькі хрысціянскую мараль і быць па-за палітыкай. Са старонак «Царкоўнага слова» нехта Б. Пякучы бессаромна абрынуўся на беларускі нацыянальна-дэмакратычных рух, палітычныя погляды яго лідэраў, і ў прыватнасці, на З. Пазьняка, карыстаючыся выпрабаванымі метадамі бальшавіцкіх ідэолагаў, а менавіта дэзінфармацыяй і перакрутам. Відаць, у стане нервовага ўзбуджэння, выкліканага вірусам носьбіта зла, аўтар артыкула беспардонна, па-езуіцку, сцвярджае: «Па сваім духоўным стане дзеячы БНФ — перманентныя рэвалюцыянеры, вар'яты, чым разбуральным інстынктам цяжка схавацца сярод «цэнтралісцкіх каштоўнасцей хрысціянскай дэмакратыі»... І таму, каб дэстабілізаваць становішча ў рэспубліцы, БНФ распачаў між іншым (брахаць жа — не цэпам махаць) шырокамаштабную кампанію па дыскрэдытацыі Праваслаўнай царквы. БНФ хацеў бы мець царкву ў якасці дадатковага інструмента дзеля ажыццяўлення сваёй палітыкі, якая дэстабілізуе грамадства».

Ад такіх «разважанняў» ахоўніка хрысціянскай маралі яўна патыхае дэзінфармацыяй і містыфікацыяй. Вывады проста высмактаны з пальца. Бо скажыце, людзі добрыя, калі гэта праявілі сябе «дзікунамі» бэнээфаўцы? Яны ж не разбуралі хрысціянскіх святынь, не цкавалі святароў, не знішчалі помнікаў культуры. Што да «дэстабілізацыі грамадства», у якой Б. Пякучы абвінавачвае бэнээфаўцаў, то ён звярнуўся зноў жа не па адрасе. Эканамічныя структуры дэстабілізавалі і разбурылі кіраўнікі былой партнаменклатуры, якія і сёння пры ўладзе. Вывад Б. Пякучага разлічаны хіба што на недасведчаных, бо ў дасведчанага «вочы яго — у галаве яго», як пісаў біблейскі прапаведнік Эклезіяст. Палітычную дэстабілізацыю ствараюць якраз тыя, хто зноў становіцца пад чырвоныя штандары, каб вярнуць для сябе камуністычны «рай». І спрыяюць гэтаму такія, як Б. Пякучы. Калі ён прывядзе прыклад, дзе хаця адзін бэнээфавец быў пры ўладзе, пачынаючы ад старшыні сельсавета, канчаючы Саўмінам, вось тады я паверу ягоным «доказам». Тут мушу сказаць, што не належу ні да БНФ, ні да іншых палітычных партый.

Дзіка гучыць параўнанне БНФ з органамі НКУС і КДБ, як гэта робіць Б. Пякучы. Параўноўваць грамадскую арганізацыю, няхай яна і не падабаецца некаму, з рэпрэсіўнымі органамі дзяржавы па меншай меры некарэктна.

Яшчэ адзін «перл» публіцыста з «Царкоўнага слова»: «Няма канфесійных праблем на Беларусі», — сцвярджае Пазьняк. Не, пане, яны, безумоўна, ёсць, і значная іх частка створана клопатамі БНФ і асабіста вашмосці Зянона». Акрамя ўсяго іншага, тут яскрава праявіла сябе нявыхаванасць аўтара.

А чаго варта грэблівае стаўленне аўтара «Царкоўнага слова» да беларускай мовы! «Праваслаўная царква,— заяўляе ён,— перш за ўсё павінна быць павернута тварам да Бога і сваіх вернікаў, а не толькі выключна да беларускай мовы». Што ж, ніхто не аспрэчвае пастулата, што царква павінна быць пасрэднікам паміж Богам і вернікамі. Але што да мовы, то ці не яна з'яўляецца душой народа? Народ жа вядзе сваю душэўную размову, знаходзіць паразуменне з Богам толькі на сваёй роднай мове. Аб тым, як сведчыць Біблія, паклапаціўся сам Бог падчас будаўніцтва Вавілонскай вежы. Таму і моляцца Богу, скажам, французы на французскай, а не на нямецкай ці англійскай мове. Адмаўляючыся ад увядзення ў цэрквах беларускай мовы, абвяшчаючы да таго ж, што яна не прыдатная для богаслужэння, праваслаўныя святары, вольна ці нявольна, спрыяюць русіфікацыі. А гэта ўжо і ёсць палітыка. Заганная палітыка разбурэння нацыянальнай свядомасці народа. Гэта ўжо выклік Богу, грэх.

Палітыкай і сярэднявечнай жорсткай ваяўнічасцю патыхае і ад варожага стаўлення да іншых хрысціянскіх канфесій на Беларусі. Асаблівая нянавісць адчуваецца да уніятаў: «Што ж датычыцца ўсялякіх «экуменічных адносін» (гэта значыць пошуку ўзаемапаразумення. — В. С.) і брацтва ў Хрысце з грэка-каталікамі, то (гаворачы не «па-партыйнаму», не «па-кадэбісцку», а па-хрысціянску) аб гэтым не можа быць ніякай размовы... У галіне веры няма і не можа быць месца плюралізму». І гэтак, калі ўсе вераць аднолькава ў Ісуса Хрыста?! Але ж гэта якраз не па-хрысціянску, а па-партыйнаму. Для чаго тут яшчэ аўтарам «Царкоўнага слова» прылеплена «кадэбісцкасць», увогуле незразумела.

Хочацца параіць аўтару «Царкоўнага слова» ўсё ж больш сур'ёзна заняцца вывучэннем Бібліі, звярнуць увагу, у прыватнасці, на «Кнігу прапаведніка Эклезіяста» ды «Кнігу прытчаў Саламонавых» і як мага настойлівей пазбаўляцца кампартыйных прыёмаў палемікі, недзе ім гэтак грунтоўна засвоеных. Бо не на карысць гэта ні хрысціянскай царкве, ні народу Беларусі.

**Васіль СОКАЛ,**
**інвалід Айчыннай вайны.**
Ляхавіцкі раён.

## ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

Сяргей ЧЫГРЫН

# Хто такі Тодар ЛЕБЯДА?

Імя таленавітага беларускага паэта, драматурга і празаіка Тодара Лебяды (Пятра Фёдаравіча Шырокава) сёння ў Беларусі амаль невядомае. Праўда, у 1991 годзе кааператыў «Адраджэнне» ў Менску ажыццявіў факсімільнае выданне яго паэтычнага зборнічка «Песьні выгнаньня», які ўбачыў свет у 1944 годзе. Змясціў восем вершаў з гэтага зборніка і часопіс «Крыніца» (1991, № 10). Трохі ўспомніў пра пакутніка сталінскіх рэпрэсій і пісьменнік Барыс Сачанка ў сваёй кнізе «Трэцяе вока» (Мн., 1992, с. 386). Вось, бадай, і ўсё. Дык хто ж такі Тодар Лебяда?

Ён любіў Беларусь, любіў свой родны горад, якому прысвяціў шмат паэтычных радкоў. А гэтыя ён напісаў у 1960 годзе і надрукаваў у слонімскай раённай газеце «Вольная праца»:

*Ёсць рэчка такая,*
*Лучосай завецца,*
*Над рэчкаю сад наш*
*і дом;*
*там спелыя вішні*
*ружовым сukвеццем*
*схіляюцца ўніз*
*над вадой...*

Размова ідзе пра Віцебск, дзе ў 1914 годзе нарадзіўся Тодар Лебяда (Пётр Фёдаравіч Шырокаў). Рана застаўся без бацькі, таму выхаваннем сына займалася маці Анастасія Карпаўна Паедава.

З дзяцінства Пятро Шырокаў марыў стаць настаўнікам, таму і паступіў у 1933 годзе ў Менскі педагагічны інстытут. У гэты час ён ужо спрабуе пісаць нарысы і вершы, якія змяшчае ў газетах «Віцебскі рабочы», «Савецкая Беларусь» і «Піянер Беларусі». Тут, у інстытуце, ён знаёміцца і сябруе з Уладзімірам Клішэвічам, Масеем Сяднёвым, Якубам Ермаловічам, Міколам Гваздовым і іншымі пачынаючымі тады аўтарамі. Тут ён знаёміцца і з яўрэйкай Басяй Ціпінай, якая была на сем гадоў старэйшая за яго. Цяжкія матэрыяльныя ўмовы вымушаюць Пятра Шырокава быць бліжэй да гэтай багатай аднакурсніцы. Але больш за ўсё яна ўмела прыласкала беларускага рахманага хлопца да сябе. Пра гэта добра напісаў у сваім рамане «Раман Корзюк» (Нью-Йорк—Мюнхен, 1985) Масей Сяднёў. Пятро Шырокаў у рамане выступае пад псеўданімам Пятрок Шыракоў, а Бася Ціпіна пад прозвішчам Цыпіна: «...Скончылася лекцыя Піятуховіча, і студэнты высыпалі на перапынак на карыдор...



Пятрок Шыракоў з Цыпінай і з некаторымі іншымі студэнтамі заставаліся ў аўдыторыі, на карыдор ня выходзілі. Цыпіна карміла Шыракова бутэрбродамі, якія яна прыносіла з дому і якімі яна спадзявалася ўтрымаць пры сабе галоднага Шыракова. Шыракоў напачатку адмаўляўся ад пачастунку, але Бася ўмела яго ўгаварыць, і Пятрок згаджаўся, вынімаў з кішэні сьцізорык і гаварыў:

— Ну, калі ты ўжо гэтак просіш, адрэжу ад цябе на капейку!

Потым Пятрок пачаў адразаць і на рубель. Нарэшце, Пятрок сьцізорыка ўжо не вынімаў, а браў Басіны бутэрброды цалкам... Гэтак вось і цяпер, зьеўшы бутэрброд, ён выцягнуў за руку з-за стала Басю і закружыўся з ёй у вальсе каля прафэсарскай кафэдры. Вальс ён граў сам сабе на губах. Трымаючы Басю шчыльна, але настолькі, каб можна было сваім корпусам адкідацца назад, Пятрок кружыў Басю да шаламлівасці, і яна, быццам у вялікай жарсьці, клала яму сваю галаву на плячо, заглядаючыся ў ягоныя вочы знарок спакусьліва і міргліва. Потым ініцыятыву забірала Цыпіна, пачынала знарок круціць Петрака налева, ведаючы, што ён умее танцаваць толькі ў адзін бок. Гэта называлася вальсам Цыпінай. Прысутныя сьмяяліся і білі ім у ладошкі...»

У 1936 годзе, хоць шлюб і не быў зарэгістраваны, Бася Ціпіна нарадзіла ад Пятра Шырокава дачку Алесю, якую ў пасведчанні аб нараджэнні так і запісала: Шырокава Аляксандра Пятроўна, 1936 года нараджэння... Але ў гэты час бацькі Алесі, на жаль, побач ужо не было. Яго і яшчэ адзінаццаць студэнтаў інстытута абвінавацілі ў «буржуазным нацыяналізме». Таму цягнік іх вёз аж у Новасібірскую вобласць. Пятро Шырокаў быў асуджаны на пяць гадоў, Я. Ермаловіч і М. Сяднёў на шэсць гадоў і г.д. Шырокаву ўдалося ўладкавацца кавалём у гэтай вобласці, а некаторых яго сяброў закінулі на Камчатку.

У 1940 годзе па хадайніцтву ўсё той жа Б. Ціпінай Пятра Шырокава і яго сяброў зноў прывозяць у Менск для «перагляду справы». З Менска адпраўляюць у Чэрвень, дзе і застаў яго пачатак вайны.

Нямецкія самалёты ўжо бамбілі горад, таму вайскоўцам было не да зняволеных. Так Тодар Лебяда апынуўся на волі. Гэты момант той самы Масей Сяднёў занатаваў у сваёй паэме «Мая вайна» (зборнік «Патушаныя зоры», Нью-Йорк—Мюнхен, 1975, с. 203—205):

*...Я падаў і плакаў...*
*— Ты што? —*
*пачуўся мне голас ласкавы*
*і нехта падаў паліто: —*
*Накрыйся й ляжы!*
*Апрытомнеў*
*і вочы падняў я — на крок*
*у ранішніх сонца промнях*
*стаяў ад мяне Пятрок.*
*Той самы Пятрок, зь якім мы*
*вучыліся тры гады.*
*А потым экзамен ў Нарыме*
*трымалі за курс бяды.*
*Прасоўваліся па балотах*
*армейцы ваўчынай ганьнёй.*
*І лёталі самалёты*
*чужыя над нашай зямлёй.*
*Быў горад далёка за намі,*
*ад сажы і дыму густы.*
*Ішлі з Петраком мы жытамі,*
*ня ведаючы куды.*
*І ўспомнілі мы, што болей*
*канвою над намі няма,*
*што сапраўды на волю*
*нас выпусьціла турма.*
*І хоць мы турму гнаілі,*
*ды посьля пяцёх гадоў*
*здавалася нам, наіўным,*
*мы сталі студэнтамі зноў.*
*Шумлівыя, сьветлыя залі,*
*прыемны студэнтак напеў.*
*Мы лепш, чым другія пазналі*
*«Кароткі курс ВКП».*
*Прайшлі мы із словам «нацдэмы»*
*па мёрзлай зямлі і вадзе.*
*Ня ведалі нашыя, дзе мы,*
*і думалі: можа нідзе.*
*Ісьці не маглі мы далей,*
*супольна — рука ў руку:*
*мяне у вадным чакалі,*
*яго — у другім баку.*
*Заплакалі мы наростань,*
*зморaныя ад хады,*
*і разьвіталіся проста,*
*як нашы калісьці дзяды.*
*У памяці дзень той ня выцьвіў,*
*на музыку просіцца слоў...*
*Мой сябра пайшоў на Віцебск,*
*а я — на Магілёў...*

(Працяг будзе).

*Беларускае замежжа*

# «Канада — збанкрутаваная прынада»

Пад такой назвай у другім за гэты год нумары часопіса беларускіх ветэранаў «Зважай», што выдаецца ў Таронта (Канада), надрукаваны рэдакцыйны артыкул, які безумоўна, зацікавіць тых, хто плануе палепшыць свой дабрабыт шляхам пераезду за акіян. Дарэчы, падобны матэрыял «Зважай» публікаваў ужо ў мінулым годзе, але становішча не толькі не стала лепшым, а, хутчэй, наадварот. У артыкуле гаворыцца, што на адрасы суполак беларускай эміграцыі па-ранейшаму з Беларусі прыходзяць лісты з просьбамі дапамагчы пераехаць у Канаду. Звычайна, гаворыцца ў артыкуле, лісты такія заканчваюцца палымяным абяцаннем выконваць любую цяжкую працу і спляціць «усе даўгі».

Канада, згадваецца ў артыкуле, сапраўды працяглы час была той краінай, дзе людзі з працавітымі рукамі ў пераважнай масе дамагаліся дабрабыту ды і жылі ва ўмовах дэмакратычных свабод. Аднак зараз краіна перажывае не лепшы свой час, у ёй развіваецца эканамічны, а з ім і сацыяльны крызіс.

Дарэчы, піша «Зважай», «у дэпартаменце іміграцыі і грамадзянства цяпер поўны хаос. Праз шырока адчыненыя дзверы... едуць-плывуцьлятуць розныя «палітычныя ўцекачы» (рэф'юджы)) пераважна з «каляровых» краін свету...

«Візітары» дэкляруюць, што яны палітычныя ўцекачы ад розных рэпрэсіўных рэжымаў. У сапраўднасці яны едуць сюды па хлеб. Гэтыя ж уцекачы такім вось фокусам першымі стаяць у чарзе ўжо тут, у нас, у той час, калі пры амбасадах (пасольствах) Канады ў розных краінах сумленныя людзі з добрай прафесійнай кваліфікацыяй, якія сапраўды патрэбныя Канадзе, ніяк не могуць атрымаць візаў... Галоўная хваля «ўцекачоў», якая часцей за ўсё зусім не мае аніякае прафесіі, плыве сюды з Афрыкі, Азіі і Карыбскіх астравоў. Выняткам з'яўляюцца хіба кітайцы з Ганконга, што звычайна прыязджаюць сюды з меншым ці большым капіталам і не трапляюць у лік звыш паўтара мільёна канадыйскіх беспрацоўных (насельніцтва Канады зараз — 27 мільёнаў чалавек)». Трэба заўважыць, што пераезд кітайцаў выкліканы і катастрафічнай перанаселенасцю рэгіёна, і тым у дадатак, што, як адзначае і «Зважай», Ганконг у 1997 годзе з юрысдыкцыі Вялікабрытаніі пераходзіць пад уладу КНР (Бэйджынгу) і далёка не ўсе пасля існавання ва ўмовах англійскага капіталізму прагнуць уключыцца ў будаўніцтва кітайскай мадэлі сацыялізму няхай сабе нават «рыначнага».

«Беспрацоўным канадыйцам,— працягвае «Зважай», — выдаецца пэўная сума даляраў... Розным «уцекачам»... таксама аказваецца грашовая дапамога на кватэру, харчы і медыцынскую апеку. Тым часам гэтыя «рэф'юджы» (уцекачы) не маюць права на працу... толькі права ўезду... Жыццё такіх новапрыбылых «уцекачоў» затармажана... Некаторых выкідаюць, дэпартуюць. Забеспячэнне прыбылых кашгуе дзяржаве многія мільярды. А ў ліку нелегальных «уцекачоў» плыве сюды і сусветны крымінал... У Канадзе пашыраецца наркаманія, рабункі банкаў, прастытуцыя, забойствы».

«Зважай» звяртае ўвагу на тое, што хаатычная па сутнасці эміграцыйная палітыка вядзе да збяднення грамадства, росту падаткаў і разам з тым дзяржаўных даўгоў, якія зноў жа давядзецца аддаваць усё тым жа грамадзянам. Так, зазначае часопіс, «федэральны ўрад загнаў народ у доўг больш чымся на 500 мільярдаў доляраў. Дзве трэці гэнай сумы трэба будзе аддаць замежным банкам. Кожны год федэральны ўрад мае дэфіцыт бюджэту ў 30—35 мільярдаў дол., а працэнты на доўг каштуюць яшчэ 35 млрд. дол. Жартуюць,— заўважае часопіс,— што кожнае нованароджанае канадыйскае дзіця ўжо мае 25 тыс. доляраў доўгу». «Крывадушныя махляры-палітыкі,— гаворыцца далей,— зруйнавалі дзяржаву з аграмадным бізнесавым, прамысловым, сельскагаспадарчым патэнцыялам. Не за гарамі той час, калі Канадзе адмовяць у далейшых пазыках... На бюджэтным гарызонце міргае чырвонае святло... Але ж... едуць далей у пропасць. Ужо пачынаюць абскубаць пенсіі найслабейшых... «Эканомяць» на адукацыі, таму чацвёртая частка дзяцей не мае сярэдняй асветы, застаецца менш падрыхтаванай да практычнага жыцця». Падлічылі, што кваліфікаваны работнік у індустрыі больш як паўгода працуе толькі на розныя падаткі».

Прычынаю такога незайздроснага становішча Канады, лічыць «Зважай», з'яўляецца ў асноўным слабая нацыянальная еднасць яе народа, якая асабліва праяўляе сябе ў моманты эканамічнага спаду. І вось вынік: «кажны цягне ў свой бок: Квебек сабе, заходнія правінцыі сабе, а Антарыо — матор краіны (правінцыя, што некалі экспартавала ў суседнія Злучаныя Штаты больш дабра, чымся Японія) апынулася пад уладай ачмурэлых сацыялістаў. У выніку Антарыо цяпер заганяе сваіх грамадзян у даўгі па 12 мільярдаў доляраў штогодна. Дадайце да гэтага, што французскамоўны Квебек забараніў у правінцыйных урадавых і бізнесавых ды прамысловых інстытуцыях англійскую мову. Канфлікт, што нясе крах адзінству дзяржавы. Адсюль навука і для Рэспублікі Беларусь, дзе ворагі беларускага народа хочуць увесці дзяржаўнае двухмоўе».

«Зважай» дае парады тым, хто ўсё ж пажадае пашукаць удачы за акіянам. «Калі каму,— гаворыцца ў артыкуле, — за адпаведную суму грошай нехта запрапануе адпаведныя паперы і сувязі для эміграцыі ў Канаду, ведайце, што асоба такая звязаная з крымінальнымі элементамі, што набіваюць на гэтым свае кішэні... Хто наважыцца да нас перабірацца, раім парайцца ў канадыйскім консуляце ў Менску (ён жа, мяркуем, ужо павінен там быць) адносна магчымасцяў працы й жыцця ў Канадзе».

Л. М.

# «Беларусь»

У ЗША ў выдавецтве Лернэра выйшла ў свет кніга пра Беларусь для амерыканскіх школьнікаў. Яна напісана даволі аб'ектыўна і ўключае ў сябе 4 раздзелы, а таксама невялікі слоўнічак, у якім школьнікам тлумачацца такія тэрміны, як «камуніст», «Садружнасць Незалежных Дзяржаў», «калгас», «радыяцыя», «усходнія славяне» і г. д. У першым раздзеле апісваецца геаграфічнае становішча і клімат Беларусі, расказваецца пра яе гарады. Належная ўвага надаецца складу насельніцтва Беларусі, падаецца кароткія звесткі пра беларускую мову, культуру і рэлігію, а таксама пра адукацыю і медыцынскае абслугоўванне. Другі раздзел цалкам прысвечаны гісторыі Беларусі. У трэцім амерыканскія школьнікі прачытаюць пра сельскую гаспадарку і лесаводства, прамысловасць і энергетыку нашай краіны.

«Беларусь» — кніга вялікага фармату, якая мае цудоўнае мастацкае афармленне, змяшчае шмат ілюстрацый і каляровых здымкаў. На задняй вокладцы кнігі — дзве беларускія паштовыя маркі: адна з «Пагоняй», другая з бел-чырвона-белым сцягам.

Кніга з аналагічнай назвай «Беларусь: На гістарычным раздарожжы» пад аўтарствам д-ра Янкі Запруднікa павінна выйсці сёлета ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Л. Б.

*Што ў газетах?*

# УПЭЎНЕНЫ ПОСТУП «ВЫБАРУ»

Напрыканцы мінулага года «Наша слова» друкавала агляд некалькіх нумароў газеты дэмакратычных плыняў Прыдзвінска-Прыдняпроўскага краю «Выбар», якая выходзіць у Віцебску. Тады, у прыватнасці, адзначалася, што «Выбар» — маладое, але зусім не правінцыяльнае, са сваім тварам дэмакратычнае выданне, на старонках якога рэгулярна змяшчаюцца надзвычай цікавыя матэрыялы. Невялікі наклад газеты (1500 паасобнікаў), агульнавядомыя складанасці з распаўсюджаннем, іншыя перашкоды істотна абмяжоўваюць чытацкую аўдыторыю «Выбару». Таму прапануем чарговы агляд асноўных матэрыялаў гэтай газеты, якія ўбачылі свет у сёлетнім сакавіку (№№ 5—7).

* * *

У першым са згаданых нумароў прыцягвае ўвагу гутарка журналіста Зміцера Дзядзенкі з сябрам рады Згуртавання Беларускай Шляхты (ЗБШ) Уладзіславам Вяроўкіным-Шлютам «Пацікавіцца сваім радаводам». Ці не ўпершыню ў беларускім друку ў гэтай публікацыі даволі падрабязна распавядаецца аб мэтах, структуры і галоўных накірунках дзейнасці ЗБШ. Адно з пытанняў журналіста прагучала так: «У вашай арганізацыі ўсе гавораць па-беларуску?» На што суразмоўца адказаў: «Пераважная большасць. Мы прымусова не навучаем мове, але пануе беларускі дух. У нас і татары размаўляюць па-беларуску...» На трэцяй паласе нумара ў артыкуле В. Ігнаценкі «Гаспадары зямлі» расказваецца аб поспехах фермераў Віцебшчыны — Уладзіміра Кудрэвіча і васемнаццацігадовага Колі Пракаповіча. Тут жа — вострая рэпліка А. Яснага «Ці патрэбна «шапка»?», дзе з іроніяй прапануецца пусціць «шапку па кругу» на збор сродкаў, якіх дагэтуль ніяк не здолее знайсці Віцебскі гарвыканкам, каб устанавіць, нарэшце, на сваім будынку шыльду з нашым дзяржаўным гербам «Пагоня».

Сярод матэрыялаў шостага нумара «Выбару» вылучым наступныя. Пад рубрыкай «Гэта не павінна паўтарыцца» змешчаны артыкул старшыні Гомельскай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій І. Нячаева «Бяспамяцтва», у якім паведамляецца аб жудасным лёсе бязвінных вязняў савецкіх канцлагераў у Хальчы і Тарасаўцы на Гомельшчыне, дзе ў першыя пасляваенныя гады ўтрымліваліся пераважна маці з немаўлятамі і цяжарныя жанчыны. Аўтар з болем піша, што сёння на месцы былых канцлагераў — ні крыжа, ні помніка, і падкрэслівае: «Хто забывае мінулае, асуджаны на яго паўтарэнне». У лісце ветэрана вайны і працы М. Самсонава гучыць прапанова ліквідаваць Маўзалей У. І. Леніна, бо апошні «ніколі не быў патрыётам сваёй радзімы — Расіі. Але... бальшавікі на чале з Леніным садзейнічалі (на грошы кайзера) паражэнню Расіі ў вайне з Германіяй. І дабіліся вялікіх поспехаў у гэтым». М. Самсонаў лічыць: даўно наспела пара афіцыйна прызнаць, што труп Леніна не з'яўляецца ніякай святыняй, а самога «дорогого Ильича» трэба проста пахаваць па-хрысціянску.

Пад сталай рубрыкай газеты «Вакол культурна-рэлігійнага жыцця» друкуецца зварот Анастасіі Козыр з Менска, якая ад імя Задзіночання каталіцкай моладзі Беларусі заклікае да супрацоўніцтва з гэтай новай культурна-асветніцкай арганізацыяй дзеля «пашырэння хрысціянскай веры і маральнасці сярод моладзі».

Галоўная адметнасць апошняга з названых нумароў «Выбару» ў тым, што ён выйшаў на васьмі старонках (раней — на чатырох). Адкрываецца нумар дакументам выканаўчага камітэта Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады «Векапомныя даты» (да 75-ай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і яе незалежнасці). Падкрэслім, што ў гэтым дакуменце ці не ўпершыню ў нашым друку адкрыта прагучала праўдзівая ацэнка глыбінных гістарычных падзей, якія мелі месца на Беларусі ў 1917 — пачатку 1920-ых гадоў. На жаль, «Векапомныя даты» надрукавалі толькі некаторыя беларускія газеты. На другой і трэцяй палосах змешчаны артыкул Уладзіміра Губскага (Полацк) «Партыя рэгрэсу і развалу», дзе робіцца спроба прааналізаваць палітычнае становішча, якое зараз склалася ў Рэспубліцы Беларусь. Аўтар лічыць, што на Беларусі па-ранейшаму правіць бальбылая камуністычная наменклатура, што беларускі ўрад ажыццяўляе палітыку, якая супярэчыць інтарэсам народа. «Наша грамадства,— на думку У. Губскага,— знаходзіцца на мяжы поўнага распаду. Адзінае выйсце — адхіліць камуністычную наменклатуру ад улады, лепш за ўсё мірнымі сродкамі праз рэферэндум ці адстаўку Вярхоўнага Савета і ўрада. Пасля гэтага (неабходна) правесці выбары ва Усебеларускі Устаноўчы Сойм...»

Чацвёртая — пятая палосы згаданага нумара «Выбару» аддадзены Віцебскаму культурна-асветніцкаму клубу «Узгор'е», які пад агульнай назвай «Стары горад» друкуе фотаздымкі цудоўных архітэктурных помнікаў Віцебска. На жаль, за апошнія дзесяцігоддзі большасць гэтых помнікаў былі па-варварску знішчаны ці знаходзяцца зараз у жахлівым стане. Алесь Мамус — аўтар змешчанага тут жа артыкула «Аб гістарычнай памяці і «посильном вкладе» яе ворагаў» — піша, у прыватнасці, што «практыка паслядоўнай нянавісці да гістарычных прыкмет горада (помнікаў архітэктуры. — М.В.) дажыла да нашых дзён. Услед за «гарачым летам 57-га» пацяклі зімы і леты 70-ых і 80-ых, якія паслядоўна і настойліва дэманстравалі тую ж зацятую (хаця і не такую адкрытую) вайну супраць нашай гістарычнай памяці».

Чытачам «Нашага слова», відаць, прыемна будзе даведацца, што віцебскі «Выбар» рэгулярна прысвячае спецыяльную старонку праблемам беларускай мовы. Яна называецца «Прытулюся да роднай маці-мовы». У сёмым нумары газеты на гэтай старонцы друкуецца ананімная сучасная паэма «Як мяне ад «Талакі» адважвалі» і ліст М. Купаліна (Аршанскі раён) «Кожная птушка мае свой шчэбет».

Пад рубрыкай «Гэта наша гісторыя» старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны В. Арлоў расказвае аб старажытным мінулым славянскіх плямёнаў, якія даўней жылі на тэрыторыі Беларусі. Як і раней, «Выбар» прапагандуе навінкі кнігарні. На гэты раз — кніжку вядомага нашага этнографа мінулага стагоддзя Паўла Шпілеўскага «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю», якая нядаўна выпушчана ў свет выдавецтвам «Полымя» ў серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі».

Падсумоўваючы агляд сакавіцкіх нумароў «Выбару», адзначым: газета ўпэўнена замацоўвае за сабой аўтарытэт паслядоўна дэмакратычнага перыядычнага выдання, якімі яшчэ не надта багата наша рэспубліка.

Пакуль артыкул рыхтаваўся да друку, мы атрымалі чарговыя нумары «Выбару», змест якіх толькі падкрэслівае правільнасць ужо зробленай высновы. У апошніх нумарах віцебскага штотыднёвіка ёсць, дарэчы, і прыемныя навацыі. Напрыклад, «Выбар» (№ 10, 7—13 красавіка) упершыню некалькі старонак аддаў першаму выпуску мясцовай яўрэйскай газеты «Шалом» (на Беларусі, да слова, цяпер выдаецца тры яўрэйскія газеты), падрыхтаванаму Цэнтрам яўрэйскай культуры. Акрамя невялікага верша вядомага віцебскага паэта Давіда Сімановіча, усе матэрыялы «Шалома» — на беларускай мове. Зварот жа «Выбару» да пытанняў грамадска-культурнага жыцця беларускіх яўрэяў, якія здаўна тут жывуць, якім Беларусь — таксама Радзіма, толькі пашырыць чытацкую аўдыторыю гэтай газеты.

М. ВІЖ.

## «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва»

*Выдадзена ТБМ*

У выдавецтве «Навука і тэхніка» накладам 10 тысяч паасобнікаў выйшла кніга «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва», якая з'яўляецца перавыданнем першага (і адзінага) тома галоўнай працы выдатнага беларускага вучонага Міколы Шчакаціхіна (1896—1940). М. Шчакаціхін першым распрацаваў дакладную канцэпцыю гісторыі развіцця беларускага мастацтва і заклаў асновы нацыянальнага мастацтвазнаўства. Выданне фінансавана Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Галоўным упраўленнем па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў РБ. «Нарысы...» надрукаваны на тарашкевіцы і разлічаны на ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускага мастацтва. Кнігу можна набыць у кнігарнях і кіёсках ТБМ імя Ф. Скарыны.

Вінцэсь КАРАТЫНСКІ

## ТАМІЛА

*Абразок народнага жыцця*

Перапрацаванае і дапоўненае выданне «Твораў» Вінцэся Каратынскага (1831—1891), аўтара тыпова беларускай ментальнасці і глыбока хрысціянскай этыкі, запаволілася ў сваім руху да чытача і замест таго, каб быць ужо ў продажы (праўда, здзекліва мізэрным накладам — паўтары тысячы паасобнікаў), нядаўна прайшло другую карэктуру. Таму для тых, хто яшчэ хістаецца, ці набываць яму кнігу В. Каратынскага, прапануюцца два раздзелы паэмы «Таміла», якіх не было ў зборніку твораў паэта, што выдаваўся ў 1981 годзе.

*XXXV*

*Аціхла, але будзіць вецер трывогу,*  
*І дождж несупынна б'е ў шыбы, як шротам.*  
*Ноч дню і жыццю пераходзіць дарогу,*  
*Штурхае да дзействаў, таемнай работы;*  
*І брыдасць тады пакідае ўжо схроны,*  
*Каб свет абкрадаць, бесклапотна уснёны.*

*XXXVI*

*Пакуль Божы дзень ці маланка засвеціць,*  
*Звястуючы ў ззянні Айца і ў грымоце,*  
*Ноч колькі гадзін або нат праз сталецці*  
*Дарогу паказвае самай брыдоце:*  
*Выходзіць злы дух на зламыснае поле,*  
*Каб жыта пажаць і засеяць куколле.*  
*Ці вечны няхай чалавек, ці смяротны,*  
*Калі абкладзе яго цяжкіх сноў зграя,*  
*Не можа расплюшчыць вачэй, бесклапотны,*  
*Сябе ў правым сне абкрадаць дазваляе.*  
*Сваяк самой зоркі, не вырвецца ў пространь,*  
*Таму і падлее на прывязі проста.*  
*Пад покрывам чорным свае соннай веры*  
*Ён сам супраць Бога штурхае шайтана;*  
*Тады толькі фальшу спазнае намеры,*  
*Калі застанецца зусім абабраны;*  
*Тады ўжо расклеіць ён сіліцца вочы,*  
*Калі яго доля Тамілы падточыць.*  
*Тады хоча ўстаць, ды яму не ўдаецца,*  
*Бо розум і шыя з зямлёю з'яднаны;*  
*Чым больш парыў, тым мацней увап'ецца*  
*Пякельны ланцуг, на якім навязаны,*  
*І ў роспачы стогне, не чуючы волі,*  
*Што дзень учарашні не прыйдзе ніколі.*  
*А хоць і сарвецца — ці прышласць ён стрэне?*  
*Праваліцца з бездані ў бездань другую:*  
*Сумлення й правоў бачыць ён разбурэнне*  
*І ўласнай жадобе загубнай слугуе;*  
*І, помстаю п'яны, ашыйнік вяртае,*  
*Цалуе руку, што яго уздзявае.*  
*І вось чалавек, як вампір, не з душою!*  
*На гэта глядзіць і здзіўляецца моладзь,*  
*Чаму ў яго крышыцца ўсё пад рукою,*  
*Развалена хата і ніва не родзіць?*  
*Чаму ён з сабою, са светам у спрэчцы,*  
*Пачуцці свае замыкае у сэрцы?*  
*Браты мае, дзівіць вас гэткае жыцце,*  
*Бо здалі яго не разгледзець прыроду!*  
*Вы зблізку, вы зблізку чаму не глядзіце*  
*У сэрцы людзей або ў сэрца народу?*  
*Разгадку развяжаце тут неспадзеўна,*  
*Заместа папрокаў сляза ўпадзе пэўна.*  
*І тая сляза, быццам дождж вясняны,*  
*Жыццёвыя сілы абудзіць, дасць Божа;*  
*І сэрцы людскія, як плодныя ланы,*  
*Адзенуцца ў траўкі і кветкі, і збожжа;*  
*І хоць мы плады не пажнём з нівы тое,*  
*Нам дзякаваць будзе жыццё маладое...*

З польскай пераклаў  
Уладзімір МАРХЕЛЬ.




## САЎМІН ЖАРТАЎ НЕ РАЗУМЕЕ?

*1 красавіка на хвалях «Беларускай маладзёжнай» было шмат жартаў, бо, зразумела,— Дзень смеху. У той жа дзень, сярод астатняга, на «Беларускай маладзёжнай» нехта голасам, вельмі падобным да дыктара Ю. Левітана, прачытаў папярэджанне, што вось-вось у эфір пойдзе важнае ўрадавае паведамленне. Але не дзіва, што слухачы так нічога тады не дачакаліся. Праўда, моцна пакрыўдзіўся наш урад, бо там, відаць, жартаў не разумеюць. А ў выніку ад выканання сваіх абавязкаў часова адлучана «за арганізацыю дэзінфармацыі і хуліганства ў эфіры» галоўны рэдактар «Беларускай маладзёжнай» сп. Жана Ліцвіна. Дзеля расследавання гэтых фактаў Саўмінам створана спецыяльная камісія, вынікі работы якой неўзабаве будуць абнародаваны. Такім чынам грамадзяне даведаюцца, ці можна, скажам, 1 красавіка наступнага года па радыё паведаміць, што, напрыклад, у нашага прэм'ер-міністра спіна белая? Але, вядома, такое паведамленне прагучыць толькі тады, калі ў народа яшчэ застанецца жаданне хоць неяк пажартаваць.*

Паўлюк ЛОСЬ.

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

*Травень (Май)* — апагей вясны. Радасная, шчаслівая пара ў жыцці людзей і прыроды. Пара кахання. Май прыходзіць у зялёным гуле дрэў і звоне птушыных галасоў, па высокай траве, з беласнежнымі ландышамі і вострым пахам чаромхі. У народнай песні ёсць такія словы:

*Шуміць-гудзе, вясна ідзе...*
*Шчасце і радасць людзям нясе.*
*У небе песня зазвінела,*
*Лясы, палі абудзіла.*
*Пралесачкі зацвіцелі,*
*І птушачкі прыляцелі.*
*Вол бушуе — вясну чуе,*
*Дзеўка плача — замуж хоча.*
*Досыць, волік, бушаваці,*
*Яшчэ ў полі наарэшся.*
*Досыць, дзевачка, плакаці,*
*Пойдзеш замуж — нажывешся...*

Травень — адказны час у жыцці земляроба, калі ад руплівай працы і надвор'я залежыць будучы ўраджай. Таму народны каляндар асабліва вылучае гэту пару года, пазначаючы рознымі прыказкамі, парадамі, прыкметамі, прагнозамі надвор'я: «Май — і пад кустом рай», «Майская трава галоднага корміць», «Калі май халодны, дык год хлебародны», «Як у маі суха, то падцягвай бруха», «У маі мароз — не будзе раёў», «Сей смела, калі ў саду бела», «У травень будзь мужык управен», «Май дажджлівы — год урадлівы», «Не сей пшаніцу наперад дубовага лісту» і інш.

На травень сёлета прыпадаюць старажытныя земляробчыя абрадавыя святы — *Юрай* і веснавы *Мікола.* Першае адзначалася ў гонар язычніцкага бога ўрадлівасці і плоднасці Ярылы («Валачыўся Ярыла па ўсяму свету. Полю жыта радзіў, людзям дзеці пладзіў»), які пазней быў заменены на святога Георгія Перамаганосца, што лічыцца заступнікам селяніна і яго гаспадаркі. Для свята характэрна багатая абрадавасць і магічная рытуальнасць.

## «У травень будзь мужык управен»

Мікольшчыну таксама святкавалі, прытрымліваючыся язычніцкіх абрадаў, павер'яў, магічных дзеянняў. Гаспадары выганялі ў гэты дзень быдла на пашу асвячонай вярбою, а пастухі, наеўшыся ў полі яешні, замаўлялі статкі «ад злыдня-хлеўніка», які быццам бы псаваў жывёлу.

1 (субота). **Кат.** *Язэп Рамеснік.* Пачатак набажэнстваў да Найсвяцейшай панны Марыі.

2 (нядзеля). **Кат.** *Чацвёртая нядзеля велікодная.*

3 (панядзелак). **Кат.** *Святы Якуб.*

5 (серада). **Кат.** *Дзень Маці.*

6 (чацвер). **Пр.** *Георгій Перамаганосец.* Народнае свята *Юр'я (Юрай, Юрыла, Ягорый).*

7 (пятніца). **Пр.** *Аляксей.* Сяўба аўса.

**Ун.** *Свята ў гонар Жыровіцкай цудатворнай іконы Божай Маці.*

8 (субота). **Пр.** *Апостал Марк* («Дождж на Марка, дык зіма, як скварка»).

9 (нядзеля). **Кат.** *Пятая нядзеля велікодная.*

**Ун.** *Нядзеля Самаранкі.*

10 (панядзелак). **Ун.** *Апостал Сымон.*

11 (аўторак). **Пр.** *Свяціцель Кірыла, епіскап Тураўскі.*

**Ун.** *Кірыла і Мяфодзій, апосталы славянскія.*

14 (пятніца). **Кат.** *Апостал Мацвей.* **Пр.** *Градабойная (пятая пасля Вялікадня) пятніца.*

Забаранялася выконваць земляробчыя работы, каб улетку град не біў пасевы.

15 (субота). **Пр.** *Барыс і Глеб.* Дзень памяці кананізаваных праваслаўнай царквой сыноў кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча, якіх забіў родны брат Святаполк. Пачатак сяўбы яравых.

16 (нядзеля). **Кат.** *Шостая нядзеля звычайная.* Дзень памяці Андрэя Баболі, закатаванага за веру ў Янаве каля Пінска ў 1657 г. Лічыцца апекуном Беларусі.

**Ун.** *Нядзеля сляпога.*

19 (серада). **Ун.** *Адданне Вялікадня* (уся служба велікодная).

20 (чацвер). **Пр.** *Свята ў гонар Жыровіцкай цудатворнай іконы Божай Маці.*

**Кат., Ун.** *Узнясенне Госпада Бога і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста (Унебаўшэсце панскае, Узнясенне Гасподняе, Ушэсце).* Саракавы дзень пасля Вялікадня, калі, паводле Новага запавету, Ісус Хрыстос узнёсся на неба.

21 (пятніца). **Пр.** *Іван Багаслоў («Доўгі Іван»).* Прысвятак народнага календара *Міколін бацька.* Сеюць моркву, агуркі, рэдзьку.

22 (субота). **Пр.** *Мікола.*

23 (нядзеля). *Нядзеля Айцоў Першага Нікейскага Сабора. Ефрасіння Полацкая.*

24 (панядзелак). **Пр.** *Кірыла і Мяфодзій, апосталы славянскія.*

**Кат.** *Найсвяцейшая панна Марыя, успамагальніца вернікаў.*

25 (аўторак). **Ун.** *Трэцяя знаходка галавы Яна Хрысціцеля.*

28 (пятніца). **Пр.** *Пахом* — прысвятак народнага календара, «агароднае свята», на якое трэба сеяць агуркі («Пасееш агуркі, калі Пахом, будзеш хадзіць з мяхом»).

30 (нядзеля). **Кат., Ун.** *Сёмуха (Сашэсце Духа Святога на Апосталаў).* У Новым запавеце сказана: «Ад Вялікадня мінула 40 дзён, падчас якіх Госпад шмат разоў паказваўся сваім вучням. Нарэшце ён сказаў ім: «Заставайцеся ў Іерусаліме і чакайце Суцяшальніка, якога Айцец пашле вам. Ян хрысціў вадою ў Ярдане, вы ж будзеце ахрышчаны Духам Святым. І будзеце мне сведкамі тут, у Іерусаліме, і ва ўсіх краінах свету, аж да канцоў зямлі. Сказаўшы гэта, ён пачаў уздымацца на неба...

У дзень Сёмухі ўсе вучні Ісуса — мужчыны і жанчыны — а таксама Марыя, маці ягоная, сабраліся разам. Яны чакалі Суцяшальніка, якога абяцаў ім Ісус. Раптам пачуўся з неба шум, быццам моцны вецер, і напоўніў увесь дом. Вогненныя языкі з'явіліся і спачылі на кожным з іх. Яны напоўніліся Духам Святым і пачалі славіць Бога і сына ягонага Ісуса Хрыста» (Дзеянні 1:1 —11; Дзеянні 2).

31. **Ун.** *Панядзелак Святога Духа.* **Кат.** *Найсвяцейшая панна Марыя, маці касцёла.*



## На хвалях БТ

**5 ТРАЎНЯ**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**21.00. Панарама.**
**23.55. НІКа.**

**6 ТРАЎНЯ**

**16.25. Тэлебачанне — школе. Беларуская мова I клас. Вясна-вясняначка ідзе.**
**16.40. Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.45. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.**
**21.00. Панарама.**
**22.25. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**23.55. НІКа.**

**7 ТРАЎНЯ**

**10.05. Рок-айленд-шоу. Музычная праграма з удзелам беларускіх рок-гуртоў.**
**18.00. Навіны Бі-бі-сі.**
**21.00. Панарама.**
**24.00. НІКа.**

**8 ТРАЎНЯ**

**18.55. Музычны фестываль «Менская вясна».**
**19.45. Студыя «Тэлесябрына». На III з'ездзе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**
**23.35. НІКа.**

**9 ТРАЎНЯ**

**11.15. Рознакаляровая карусель. Конкурс юных выканаўцаў у Палацы культуры прафсаюзаў г. Менска.**
**14.05. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**17.50. Светлай памяці загінуўшых у барацьбе супраць фашызму. Мінута маўчання.**
**19.15. Запрашаем на вячоркі.**
**20.00. Панарама.**

*Пародыі*

*Міхась СКОБЛА*

## Захмялелы паэт

*Блукаць па ліпавай алеі,*
*каб зноў сустрэць вас,*
*Анна Керн, —*
*вы разумееце няўцерп,*
*з якім чакаю і хмялею...*

**М. СТРЫГАЛЕЎ.**

На ветры сіберным калею,
бы варту пільную нясу —
я Анну Керн
вачмі пасу
на цёмнай ліпавай алеі.

Паэту Пушкіну зайздрошчу, —
якую ён каханку меў!
Я й сам з ахвотай, каб прыймеў,
дзяліў бы з ёй сваю жылплошчу.

Яе б я чарамі аплёў,
верш напісаў бы, як збавенне:
«Я помню чудное мгновенье...» —
і падпісаўся б: Стрыгалёў.

«О Анна Керн,
нашто араці вам, —
я ёй шаптаў бы сам-насам, —
даў страсці Бог беларусам —
калі надумаеце раптам...»

А бедны Пушкін сеў бы з краю
і напісаў бы ў дакладной:
«Народ, издревле нам родной...» —
паэму-скаргу Мікалаю.

Ды Анна Керн
вуаль кусала,
не бачыў я жанчыны злей:
«Не трэба ліпавых алей
і вершаў ліпавых таксама!»

## Афарызмы

**Мілан ТОДАРАЎ**

Мы былі асуджаны на поспех, але ў апошні момант выйшла амністыя.

Важна, каб таварышы верылі ў тое, што нам робяць, інакш не будзе поспеху.

У нас няма другарадных грамадзян. Пасля першага раду абавязкова кардон.

Асуджаны за варожую прапаганду. Сцвярджаў, што ідэальная краіна завецца Аркадзія.

Каб Адам прапанаваў Еве чырвоны яблык, грэх быў бы ідэалагічна больш прымальным.

**Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**
**Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск.
вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
**Індэкс 63865.**

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак.
Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8505 паасобнікаў.

**Зак. 270.**

**Падпісана ў друк 3.05.1993 г. у 15 гадзін.**
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.